Цана асобнага № 30 кап.

# Вольная Беларусь

Тыдневік палітычны і літэратурны.

Умовы падпіскі:
На год...... 12р. —
На поўгода.... 7р. —
На 1 мес.... 1р. 50к.

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: г. Мінск Захараўская, 18. Тэл. 776.

Перамена адрэсу 50 к.

Год выдання II.



Ніхай жыве Нізалежная Беларусь!



№ 20-21. 1918 г. 9-го чэрвеня 1918 г. № 20-21.

## Лірнік.

Хто лірніка з вас знаў? Хто ведаў з вас старога,
Які с кійком ў руцэ ўвесь край наш абхадзіў?
Памёр, памёр сівы! Свой дар панёс да Бога,
Што ліру даў яму і песьню прысудзіў.
Хто бачыў з вас яго, сідзячым на кургане
Тагды, як зачынаў румяніцца усход?
Ен там любіў сьпеваць, што некалі поўстане
І будзе вольна жыць каханы ім народ.
Шуміць вяршынай дуб — падзеі ўспамінае,
Каторых сьведкаю зрабіўся на жыцці.
А лірнік наш стары с шумоў тых сьпеў складае—
Рука на корбе сьпіць у чароўным забыцці.
Праходзіць слава ўся — аб ёй народ забыўся!—
Князі, і воіны, і меські люд, і кмет,
Які ні менш баяр старынаю гардзіўся...
І, сам ні знаючы, раняе сьлёзы дзед.

**А. Гарун.**

## Дзьве страты.

Вот ужо другі год, як вясна адбірае у нас нашых лепшых людзей. Летась у весну, 26 (12) мая, пайшоў да Бога сьвечкаю М. Богдановіч, а сяголета у адзін дзень, 20-го мая, памерлі двое: К. Каганец і новы песьняр, малады вясковы хлопец, Ф. Калінка (А. Петрашкевіч).

К. Каганец (Казімер Кастравіцкі) належыць да найстарэйшых песьняроў беларускага адраджэння. Гэта ен, у пору страшэннай нацыянальнай цішы на Беларусі, зьвяртаўся да Бога у такіх хвалюючых душу словах: «О, Божэ, Спасе наш! Ты міласьць нам пакаж, з няволі вызваль нас!» Цяпер гэта песьня пераложана на ноты... К. Каганец выступіў на беларускі шлях у самую дзікую пару Александраўскай рэакцыі. Сыстэма абрусіцельства была у поўным росквіце. У той час, - кажэ А. Уласаў, блізка знаўшы К. Каганца,—назвацца гімназісту беларусам было тое самае, што зрабіць вялікі чын Муцыя Сцэвалы, або голым прайсьці па вуліцы. І ніпрыменна выгналі б з гімназіі за такую крамолу, бо для царскіх чыноўнікаў ні беларусаў, ні Беларусі ні было; быў толькі «истинно-русскій край» с «истинно-русскими людьми» на Беларусі. Але «ад барадатай прысадзістай постаці Каганца, насіўшаго дэманстратыўна кажух і боты і падпіразанаго чорна-рускім поясам», ніша А. Уласаў: «веяло моцнай, нінарушнай, як скала, верай, што «Беларусь трэба падымаць».

К. Каганец, як ідэйна-грамадзкі працаўнік, вядомы ні толькі беларускай інтэлігенцыі, але і шырокім колам дзеячоў асвабадзіцельнаго руху 900 гадоў. Ен быў адзін с тых, хто палажыў пачатак Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе у 900 годах. Каганец пісэў граматыку беларускай мовы у той час, як беларускі друк быў забаронены.

У творах Каганца адбіваецца старасьвецкая Беларусь, атуленая пушчамі, лугамі, абвеяная казкамі зруйнованых замчышч беларускіх князеў. Каганец быў сын народу, дух «з беларускай пушчы».

С твораў К. Каганца у «Вольнай Беларусі» за 1917 год было надруковано: „Новасадзкае Замчышчо“, «Засульскія Турэ», «Ваўчок» і «Халера 40-го року».

Ф. Калінка памер на 24 г. свайго жыцця. Да апошняго часу, на працягу васьмі гадоў, с пачатку у «Нашай Ніві» у «Маладой Беларусі» і у «Беларусе», а потым у «Вольнай Беларусі» і у «Беларускім Шляху» спатыкалі мы яго сялянскія лірычныя і гумарыстычныя вершы. Поэзія яго простая і шчырая, пісаная мазольнаю рукою селяніна-хлебароба. Калінка — ціхі салоўка беларускіх зяленых далін. Вішневы садок, зялены дуб, язьмін, думкі ратая, бытавыя абразкі сялянскаго і дробна-шляхоцкаго жыцця — вот матывы яго творчасьці. Ф. Калінка—поэт-хлебароб. У яго песьнях адбіваюцца ціхія, задумленыя беларускія пэйзажы, простыя думкі селяніна-хлебароба, каторы рысуе быт свайго жыцця. Яго сумная і падчас гумарыстычная поэзія паказвае нам у простых, ніштучных формах шчырасьць душы, парыванні да чагось лепшаго, сьветлаго і сьвяточнаго.

Калінка, скончыўшы усяго пачатковую народную школку, рваўся да навукі у горад, але варункі жыцця беднаго ратая рэдка каму гэта пазваляюць. У свaей ваколіцы (Вілейскі павет) ен пашыраў беларускае друкованае слово і ідэю беларускаго адраджэння.

— ь —



## Цукраварні на Беларусі.

(*Страніца з гісторыі прамысловасьці на Беларусі.*)

Быў час, калі на Беларусі рабілі свой цукер і ні было патрэбы купляць яго у чужой староньцы. Праўда, даўнейшыя людзі больш мелі часу, або, праўдзівей кажучы, больш былі працавіты за нас, вось дзеля таго і стараліся усе патрэбнае для жыцця рабіць у сябе, каб свае грошы аставаліся у краю.

Гэтакая разумная эканамічная пастанова прыдалася бы нам і сягоння, бо калі добра разглядзецца навакол, дык пабачым, што лішне многа ужо мы купляем, так што цьверда і пэўна можна сказаць: мы больш спажываем, чым прадуктуем.

Разумная эканамічная гасударсцьвенная гаспадарка зводзіцца да таго, каб развіваць сваімі сіламі і сваім капіталам усе тое, што край можа даць, каб зьменшыць чужы ніпатрэбны нам прывоз тых прадуктаў, якія або у нас есць, хаця і ніпераробленыя, або каторыя можна нам самым вытвâрыць.

Адным с такіх прадуктаў у нас есьць цукер. Быў час, калі амаль ні у кожнай лепшай гаспадарцы рабілі самі гаспадары цукер дамовым спосабам, с чаго і перайшлі с часам да вырабу у спэцыяльных хфабрыках. Беларускі цукер славіўся нават у Польшчы, скуль да нас прысылалі людзей дзеля навукі цукраварства. Вось затым і трэба нам разглядзецца уважна у гісторыі нашаго цукраварства.

Ен хутка устае, надзевае халат
І ходзіць і ходзіць то уперад, то узад.
А сьлезы безмерна ліюцца з вачэй:
Ен плача аб долі нішчаснай сваей.
І вось перад ім нідалека вакно,—
Здаецца, без гратау жалезных яно.
І ен палахліва ідзе да вакна,
Ні бачыушы сьвету і сонца здауна;
Садзіцца на ем і у чароуную даль,
Нягоду пазбыушы і горо і жаль,
Глядзіць і, здаецца, ен вольны ізноу,
І лёс свой шчасьліва нанова знайшоу.
Вясенняя ноч над зямлей залягла
І цемна і хмура... Цярушыць імгла,
А вецяр гуляе, рагочэ, пяе,
У садзе між радау безлістых снуе,
Над рэчкаю цемень, як хмара вісіць...
І замак таемна і хмура глядзіць
Высокаю вежай увакруг на прастор.
І глуха і нудна. Часам каля гор
Адно толькі слаба блісьне аганек
І здасца, як воучыя вочы здалек...
Хістаюцца рады высокіх дубоу
І сьняць пра раздолле прайшоушых гадоу,
Як жыцце цьвіло усягды каля іх,
Як любым быу ім кожны радасны міг,
Як сіла жыла, красавалася моц...
Пануе вясенняя цемная ноч,
Ні крыка, ні духа і жыцця кругом...
Ша!.. Хтось у далі застагнау пад вакном
Высокаго замку і раптам прапау,
Адно толькі вецяр запеу, заіграу.
Як нудна у полі у вясенную ноч!
Як сэрцо дрыжыць і нявольна у скоч
Трывога і страх западае яго...
І сэрцо ніколі ні знае таго,
Што цемная ночка стаіці магла...
Ша!... Цень вось да рэчкі ужо падыйшла.
Чытачу, пязмога ужо мне гаварыць,
Пара бы хоць крышку дауно сапачыць.
Я лягу, а ты мо' паслухаеш сам,
Што дзеіцца можа над рэчкаю там.

Шырокія хвалі шумяць і равуць
І берэг шырокі раз-по-раз грызуць...
Да рэчкі дзяучына у ціны падыйшла
І плакаць, закрыушы свой твар, пачала.
То плакало горо у душы маладой,
То сэрцо стагнало, абвіушы нудой,
А далей усе сьціхло... Занылo усе,
І вецяр пачау заціхаць па крысе.
Адно толькі хвалі шумелі, раулі,—
Дзяучыні на вечнасьць спачынак далі.
Нішчасная Галя, галубка мая!
Дзе дзелася радасьць, надзея твая?!
Дзе думкі, дзе шчасьце, краса і любоу?!
Усе згінуло прахам, ні вернецца зноу,
І памяць між цемных людзей прападзе.
Над рэчкай-магілай твaей загудзе
Адзін толькі вецяр. І хто будзе жыць,
Ні скажэ, што шчыра ты умела любіць.
Прайходзіць зіма... Зелянее лужок,
Ажыу пад гарою хваевы лясок...
Запахлі пале макраватай раллей.
Вось птушкі пяюць над васкросшай зямлей,
І сонца прамені зіяюць ясней,
І сэрцо у грудзях забілось мацней.
Кахаю цябе, маладая вясна!
Ты радасьць мая і надзея адна,
Ты жывіш халодную, ціхую кроу.
У душы разліваеш спакой і любоу.
Люблю без канца красаванне твае.
У ім сіла і вера і думкі мае,
І хмель, зачарованы шчасьцем віна.
Кахаю цябе, маладая вясна!
На землю ажыушую вечар сайшоу.
Вось месяц глядзіць з-за цемных лістоу.
Высокія ліпы у сада рагу
Шумяць на дварэ. Убачыш слугу
З вяселым настроем на кожным шагу.
І сьвеціцца замак мільенам агнеу,
У палацы спачынак жаданны зыйшоу.
Магнат той сусьветны, валка той, князь,
Сядзіць ен і дзьверы адкрылісь насьцяж
У іх паявілася пара людзей,—

За імі ж, с паглядам пахмурых ачэй,
Нявольнік змардованы доляй сваей...
— «Ну, досыць!.. Скажы мне, што думаеш ты?
Чаго ты забрауся у час ночы сюды?
На што заманіу ты ее да сябе,—
Надзею маю, усе думкі мае?
Ты думау, ніштожны ты, чорны чэрвяк,—
Ты думау, што будзе усе гэта так?
І жыцце адно маладое згубіу...»
— «Ой, князь! Я любіу ее, шчыра любіу,
І душу яна мне сваю аддала,
Але твая ласка між намі лягла.
Ты, горды мучыцель, убійца і кат!
За гэтыя словы памерці я рад,
Бо гэта праудзівае званне табе.
Ты Бога забыуся, забыуся сябе!
Ты думау, як кінуу у цямніцу мяне,
Змарыць і любоу дарагую у турме.
Нішчасны!.. Ты бачыш, я ей толькі жыу.
Дык знай, што дачку тваю год я любіу,
Нізнаючы сну і спакою у душы,—
А два у турэмнай, панурай ціші.
І ведай,—яна была верная мне:
Табе і ні сьнілась падобнае у сьне.
Ні знау ты любві усе жыцце свае,
Ты еу маю душу і сэрцо ее...
Ты пуць нам павузіу да шчасьця, і мы
Халоднай адвагай зьвязалі вумы.
Нягодны ты, подлы! Ты гэтаму рад?..
Мучыцель, крываніуца!..»
— «Дык гэтак?!.— «Ну, кат!..»

Канец.

**Ф. Чэрнышэвіч.**



# Сон.

Лето, сонцо, салавейка,
Рэка, рыбка ў ёй на дне,
Пастушок, труба, жалейка...
Неяк сьніцца-сьніцца мне.

Гэта сон радзімых ніваў,
Ранніх росаў ды зарніц,
Шэптаў лесу, Нёмна зьвіваў,
Век нідбаючаго ніц.

Сівы Горадзен адвечны
Ім абмыты, абняты,
Дзе шырокай, безканечнай
Стужкай цягнуцца плыты.

Ціхі замак над вадою,—
Вартаўнічы тых вякоў,—
Як тут лазіў грамадою
Рой князёўскіх сваякоў.

Бадь грымеў,як дні, так ночы,—
Ад пары аж да пары,—
І паненкаў зоры-вочы
Нёман лашчылі стары.
Тут паслы даўнейшай Польшчы
Тры дне моўчкі прабылі;
Прамаўчалі-б срок мо' й больш,
Але ж далей ні маглі.
Давялося адрачыся
Ад дзяржаўных ім правоў:
Кацярына, сьмяючыся,
Праліла-б іх от-дзе кроў.
На другом баку Францішкаў
На гарэ стаіць касьцёл.
Шмат пярпеў наш люд уціскаў,
Як капаў глыбокі дол,
Каб с касьцёлу ў замак гэты
Працягнуць падземны ход,—
Ды дабіўся колісь мэты
Пад прыгонамі народ.
Калі пойдзем за вадою
Па дарозі ў князеў лес,
Дзе с халупкаў чарадою
На жыцце бедак залез.

То Каложскую капліцу
Убачым хмурную, як дол,—
Хрысьціянство стуль ірдзіцца
Пачыналося вакол.
Гадоў восімсот мінуло
(Хто ж мог гэтулькі пражыць?),
А яна нібы заснула
Ды над прываллю ляжыць.
Дзе ж цяпер ты, родны Нёман,
З мілым Горадням маім?..
Чужой песьні й мовы гоман
Мусі лётае па ім...
Але ж не,—то сон мой хворы!
Родны ж там жыве наш люд,
Тыя ж долы, тыя ж горы
Там. Хоць я... вось тут.

Менск, 7/VI 1918. **Крауцоу Макар.**



сьці Беларусі, просячы, каб Савецкая рэспубліка прызнала ле ды каб былі пачаты перагаворы аб граніцах і гандлёвых зносінах.



## С песьняу Тараса Шэучэнкі.

### Запаведзь.

Як памру, дык пахавайце
Мяне на магілі
Сярод стэпу шырокаго
На Украіні мілай.

Каб шырокія палеткі
І Дняпро і кручы
Было-б відно,—было чуці.
Як раве равучы!

Як пацягне з Украіны
Ды у сіняе мора
Кроу варожу,—вось тады я
І палеткі й горы

Усе пакіну й панясуся
Да самога Бога
Маліціся. А да тога
Я ні знаю Бога!

Пахавайце ды уставайце,
Кайданы парвеце,
І варожай злой крывею
Волю акрапеце!

І мяне у сямі вялікай,
У сямы вольнай, новай,
Ні забудзьце памянуці
Ні злым, ціхім словам.

### Разрытая магіла.

Сьвеце ціхі, краю мілы,
Мая Украіна!
За што цябе сплюндравалі,
За што, мама, гінеш?

Ці ты рана да усход сонца
Богу ні малілась?
Ці ты дзетачак нівэчных
Добра ні вучыла?

— «Малілась я, турбавалась,—
Дзень і ноч ні спала,
Сваіх дзетак дагледала
У звычай навучала.

Вырасталі мае кветкі,
Мае тыя дзеткі,
Панавала і я колісь
На шырокім сьвеці.

Панавала... О, Богдане,
Ніразумны сыну!
Ты паглянь цяпер на матку,
На сваю Украіну,

Што, калышучы, сьпевала
Пра сваю нядолю,
Сьлязьмі песьню палівала,
Выглядала волю..

Ой, Богдане, Богдавочку!
Каб я была знала,
То у калысцы прыдушыла б,
Пад сэрцам прыспала!

Стэпы мае запрадапы
Жыдаві, Нимоцы:
Сыны мае на чужыні,
На чужой рабоці.

Дняпро, брат мой, высыхае.
Мяне пакідае,
Мае мілыя магілы
Маскаль разрывае...

Ніхай рые, раскапуе,—
Ні сваё шукае;
А тым часам пераверткі
Ніхай падрастаюць
Ды і памочуць маскальові
Гаспадараваці
Ды з матулі палатняну
Сарочку здымаці.

Пасьпяшайце ж, ніладзькі,
Матку катаваці!

На чацьвера раскапана,
Разрыта магіла.
Чаго там яны шукаюць?
Што у нас згубілі?

Бацькі стары... Эх, каб яны
Знайшлі тое, што там пахавана!
Ні плакалі-б дзеці, маці ні зывала-б!

*Крауцоу Макар.*



## Прароцтвы аб пагодзі.

Мы ўжо ўспаміналі аб працах п. Ст. Падберэскага, каторы 25 гадоў рабіў досьледы аб зьменах пагоды ў нашым краю. Цяпер, на просьбу яго, друкуем прысланыя нам рэзультаты яго работы.

«Баромэтр, як прылада дзеля прароцтва пагоды, мае вялікую вагу для хлебаробаў, але дзеля далейшае мэты яго помала. Ядыная крыніца, дзе можна шукаць развязкі гэтага пытання гэта— законы, якія кіруюць атмосфэрычнымі пераменамі. За аснову дзеля прароцтва пагоды на месяцы і годы можна ўзяць заўважаную у прыродзі падобнасьць—у прыбліжэнні, у агульных рысах з некаторымі ваганнямі—двох чародных дзесяцілецццяў і двох чародных пэрыодаў: кастрычнік—марэц, красавік,—верасень, у чарадаваньні падобных да сябе гадоў і месяцаў; напр., 1900 год падобны да 1910, 1901—да 1911, 1902—да 1912 і т. д.; кастрычнік 1900 году падобны да красавіка 1901; лістапад 1900—да мая 1901; марэц 1901—да верасьня 1901 і т. д.

«Апіраючыся да памянутых дзьвёх асновах падобнасьці гадоў і месяцаў, мы можам болей-меней прарочыць пагоду на шасьцімесячны пэрыод—ад красавіка да верасьня з нікаторымі ваганнямі. Аднак, я хачу асабліва адзначыць слово «падобнасць», бо ўсе прароцтвы даю толькі болей-меней точна.

«Спадзеваная пагода на шэсць месяцаў—ад красавіка да верасьня 1918 году—ў нашым краю мае быць гэткая:

**Красавік:** суха, халады; каля 30—прымаразкі.

**Май:** халодны, вільготны.

**Чэрвень:** мала цепла; лічаныя гарачыя дні, вільготны; крыху дажджу—ў меру патрэбы.

**Ад 2 ліпня да 16 жніўня** —благая пагода на 6 тыдняў, з лішкам вільгаці. Мае дзяліцца на тры пэрыоды:

першы двохтыднёвы перыод ад 2 да 16 ліпня: буры навальніцы, ветры; спадзеваныя крытычныя дні з навальніцамі—каля 2, 6, 11 і 15;

другі двохтыднёвы пэрыод ад 17 ліпня да 1 жніўня—блізка ніўстанная слата, без навальніцы, без сонца, без ветру;

трэйці двохтыднёвы пэрыод ад 2 да 16 жніўня; першы тыдзень блізка ўвесь пагодны, другі—дажджлівы;

Дзень 16 жніўня можна лічыць апошнім днём благой пагоды.

**Другая палова жніўня**: суха, адзін раз перападзе дождж.

**Верасень:** суха.

«На гэтым канчаецца прароцтва пагоды на памянутыя шэсць месяцаў—ад красавіка да верасьня. Апіраючыся на рэшце агранічаных і ніпэўных данных, я прабую схарактарызаваць пагоду на два чародныя месяцы: кастрычнік і лістапад 1918 г.:

**Кастрычнік**—суха, холад.

Каля **2 лістапада** —пачатак зімы; земля замерзьне на суха, без папярэдняе восеннай слаты.

«Гоман.»



## Гутарка Александра і Сьцепана.

«Вот жыдоўка, Фрыдлянд Сорка,
Прыпраўляе добра мед:
Тут і саладка, і горка,
І ў мазгох чуць заварот.
Абы толькі я дарваўся
Да яго, дык хлебану!»—
Гэтак вось раз спаведаўся
Александра Сьцепану.
Трэ ж было такой праўды:
Хтось вындліну ў Станкі ўкраў.
Ператрэслі скрозь мы усюды
Гумны, клеці... Сьлед прапаў.
Прагарэла мысьлю—справа,
Ні знайсьці прапажы мне...
Мы йшчэ зірк да Станіслава—
Згуба ё ў яго гумне!
Рады мы, сьмяецца Станка:
Есьць каўбасы, кумпякі...
Будзё у Соркі зноў гулянка
А мядок, бач, «падаўкі»!
Вось паклікалі на піво
І мяне і панятых.
Я бягу да Сорки жыва
Баравік зьявіўся у міг.
Цэлы дзень мы там гулялі,
Дык жа трэба, як на зло,
Вечарком, у самым балі
Ліхо прабарэча ўнясло.
Вось мы усе і патрухлелі...
Я скарэй пад ложак—шмыг!
Толькі, добра быўшы ў хмелі,
Асыкнуўся Баравік:
«А чаго ж тут пан шукае?»—
Языком баўтнуў, засьмяг:

Сорка, у страху ледзь жывая,
Стала ціха пры дзьверах.
Пробаршч — бойкі чалавечак—
Так адказвае яму:
«Бач, шукаю я авечак,
Што зблудзілі у карчму!
Вось вас клічу ісьці да дому
Да дзяцей і да жанок...
І ля ўцехі духу злому
Ні зьвўляцца у шынок».
Баравік шукаў зачэпкі
І ужо браўся да грудзей,
Але ксёндз ні зломак, крэпкі,—
Адапхнуў яго бардзей.
На нагах ён ледзь трымаўся,
Дык назад і паляцеў.
Сьмех агульны скрозь узьняўся,—
Баравік упаў у гнеў.
Ускарабкаўся памалу
І ну гнацца дай у міг!
Удзьверы тып! Злуецца с шалу,
Адчыніць ні можа іх.
Ксёндз, выходзячы, з падворку
Дзьверы клямкай зашчапіў.
Гэтак нас усіх і Сорку
І гулянку абакпіў.
Дык і дрэнна, бач, Сьцепане,
Што кіруе намі жыд:
Ксёндз ні дасьць цяпер адхлання—
Трэба кінуць мёд, бо стыд»..

Сьмілавічы, 26-VI—1917г. **А. З.**



## Весткі с краю.

**В. Слабада-Кучэнка, Слуцк. пав.** Тутэйшая моладзь, зразумеўшы сучаснае становішчо Беларусі, злучылася у гурток «Зарніца»». з мэтай зрабіцца вольнымі ратаямі. Мае ён і культурна-прасьветныя заданні З гэтаго ж і пачалася праца.

28 красавіка [ст. ст.] гурток ставіў спэктакль. Ігралі «Па рэвізіі», кам. Крапіўніцкаго. Ігра артыстаў была вельмі добрая, калі узяць пад увагу тое, што усе з іх былі першы раз на сцэні, а нікаторыя, дык сцэны дагэтуль і ў вочы ні бачылі.

Народу было шмат, і усе асталіся вельмі здаволены. На Тройцу маняцца гэтак сама рабіць прэдстаўленне.

Гэтак-та у нас робіцца: старыя былі прачнуліся, але зноў заснулі, а маладыя збудзіліся, злучыліся і працуюць. Памажы ім Божа! *Янка Кушэль.*

**Дв. Філіповічы, Мазырск. пав.** Нідаўнымі часамі на гэты двор у ночы злыдні зрабілі напад. Упраўляючы двором, п. Н. і яго семья былі збуджаны стрэламі, якія сыпаліся густа у ва усе вокны дому. Нішчасная семья была на валасок ад сьмерці, ні можучы ні уцячы, ні бараніцца. Калі ад стрэлаў узьняўся пажар, п. Н. і яго сын сталі стрэляць, каб даць змогу уцячы кабетам —нявестцы і яе сястры—з дому. Уцекаць прышлося праз вакно, пад градам куляў. Нейкім цудам семья здолела уцячы жывымі і цэлымі. Сярод злыдняў есьць некалькі раненых.

Згарэло вельмі шмат цэнных рэчаў, належачых да гаспадара двору п. Богуша, а так само усе рэчы, грошы і адзежа пана Н. і яго семьі.

Страты вялізныя. Вядзецца прасока.



* * *

Ахвярую Гурткам «Зарніца» у вёсках Слабада—Кучынка і Старыца, Слуцк. п.

Бачу «Зарніца» на ўсходзі
Над вёскай Слабодкай ўзыйшла,
Колькі праменняў ў прыгодзе
Кінула й далей пайшла.
І ў Старыцы сьвеце яна,
Як раніцай сонцо на ўсходзе,
Народ прабуджае яна
І добрыя думкі наводзе.
«Зарніца», сьвяці ты ў душы
Селянскіх хлапцоў і дзеўчат,
Каханне у іх запішы
Да нівак радзімых, да хат.
Зрабіся прароцтвам гадзіны
Братэрства, кахання, свабоды,
У якой ўшанаваці павінны
Народ наш чужыя народы.
Пакаж ім праўдзівую сьцежку,
Каб выйсьці на вольнасьці шлях,
Вядзі праз жыццё па узьмежку
У квяцістых народных палях.

**Юрка Прышчэпа.**

## Таварышу.

Ці ты бачыў, як па мору
Пойдуць хвалі чарадою?
Як ў сібірнейшым напору
Бьюць у бераг у час прыбою?
Моро пеніцца і зліцца,
Нісупынна коціць валы,
Бышным с злосьцю хоча ўпіцца
Сілай моцнай сваёй ў скалы,
Каб зьвярнуць усе цьвярдыні
Ды разабіць усе прашкоды
Ды, разьліўшысь па раўніні,
Ураз здаволіцца свабодай.
Але моцна стаяць скалы,—
Адбіваюць усе напоры
Буйных хваляў й дзікіх валаў,
Што іграе імі моро.

Так і ты, таварыш мілы,
Будзь у жыццю нібы скала
І адважна, поўны сілы,
Ваюй з бураю-навалай.
Аб цьвярдыню гордай волі
Разьбівай бяды напоры
І ў барбэ за шчасьце-долю
Спыняй моро, зрывай горы.

**Цішка Гартны.**

Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культуры». Друкарня Я. А. Грынблята.